# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 39 (241) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 24 ВЕРАСНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

Леанід Мартынаў

## СЛЕД

А ты?
Ўваходзячы ў любыя
Дамы,
І новыя й старыя,
На ўсходы ўзняўшыся крутыя,
Ў кватэры светлыя чужыя,
Пад гукі клавіш піяніна
Нядбайна гледзячы на свет,
Скажы:
Які ты след пакінеш?
Ці след,
Каб выцерці паркет
І скоса паглядзеці ўслед,
Ці той
Нябачны ў душах след,
На многа зім, на многа лет?

Пераклаў **А. Звонак**

## І Ў МАЛЕШАХ ШКОЛА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Многія вёскі, а асабліва школьнікі, дачакаліся прыгожых і прасторных школ. Дачакалася і вёска Малешы на Бельшчыне. Тут пабудавана школа - помнік тысячагоддзя Польскай дзяржавы.

Новы навучальны год быў тут вельмі ўрачысты. Школьнікі маюць ахвоту лепш вучыцца, а настаўнікі яшчэ больш плённа працаваць.

## У Вульцы працуюць

Добра працуе сельскагаспадарчы гурток у Вульцы (Гайнаўскі пав.). Налічвае ён 13 членаў. Старшынёю з'яўляецца Іван Аляксеюк.

Гурток мае камплект палявых машын і трактар. Сярэдні ўраджай збожжавых культур дасягнуў у гэтым годзе 16 цэнтнераў з гектара. У тым ліку ўраджай жыта даў 19 цэнтнераў з гектара, а пшаніцы 22 цэнтнеры.

Мясцовыя гаспадары пераканаліся, якое вялікае значэнне мае агратэхнічны падыход да апрацоўкі зямлі і механізацыя сельскіх работ. Аб гэтым сведчыць ураджай у гурткоўцаў. **(ся)**

## „Яго бацька"

Гэтымі днямі ГП БГКТ надрукавала п'есу Яўгена Васілёнка — «Яго бацька». Закранаецца ў ёй тэма сям'і, кахання і падыходу да жыццёвых з'яў.

У п'есе «Яго бацька» выступае ўсяго 4 асобы — Сцяпан, яго жонка Кацярына, сын Толік і былы муж Кацярыны, Максім. Дэкарацыя простая і лёгкая да пастаноўкі на вясковай сцэне.

Высылаецца бясплатна. Пісаць па адрасу:
— Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa, m. Białystok, ul. Warszawska 11. (Wypożyczalnia repertuarowa)

**(СЯ)**



# ПЛЁН НЯСЕМ, ПЛЁН...

10 верасня ў Варшаве на стадыёне Х-годдзя адбыліся ўрачыстасці Цэнтральных дажынак. На «Свята плёнаў» са ўсіх куткоў Польшчы прыехалі дэлегацыі сялян і рабочых, разам каля 50 тыс. асоб. Варшава сустрэла гасцей вельмі сардэчна. Інакш і не магло быць. У гэтым годзе нашыя сяляне маюць вялікія дасягненні.

У сваёй прамове Гаспадар Дажынак І-шы сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка між іншым сказаў:

«Сёлеташні ўраджай нашай сельскай гаспадаркі найбагатшы за ўсе гады. Паводле першай ацэнкі дзяржаўнай інспекцыі плёнаў атрымалі мы ва ўсёй краіне сярэдні плён чатырох збожжаў 17,7 квінталя з гектара, а сяляне Апольшчыны, Ніжняга Шлёнска і паморскай зямлі перавысілі ў сярэднім 20 квінталяў з га».

Тав. Гамулка падкрэсліў, што гэтыя дасягненні не з'яўляюцца выпадковымі. Узрост плёнаў мае трывалую аснову. Дапамога дзяржавы, дапамога сацыялістычнай прамысловасці для сельскай гаспадаркі — злучаная з намаганнямі сялян, цягне наперад нашую сельскагаспадарчую вытворчасць. Галоўным заданнем, — сказаў Уладзіслаў Гамулка, — з'яўляецца ў далейшым павышэнне плёнаў збожжа з гектара. Павінны мы зрабіць усё, каб утрымаць гэты тэмп узросту плёнаў.

**На здымку: уручэнне плёну — буханка хлеба Гаспадару Дажынак Уладзіславу Гамулку.**



**За гады Савецкай улады Беларусь стала квітнеючым садам. Вось яны, плады новага ўраджаю.**

**На стар. 2 чытайце цікавы артыкул Старшыні Савета Міністраў БССР аб ролі Беларусі ва ўсесаюзным падзеле працы.**

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ВАПНАВАННЕ – СПРАВА НЕАБЫЯКАВАЯ

Сёння не трэба нашых земляробаў ужо больш пераконваць, колькі карысці ў атрыманні добрых плёнаў дае прымяненне штучных угнаенняў. Патрэбныя толькі пры гэтым яшчэ інструктарскія ўказанні аграномаў адносна якаснага і колькаснага падбору штучных угнаенняў для прымянення на паасобных глебах. Але цаліною ў далейшым застаецца ў свядомасці нашых земляробаў справа неабходнасці вапнавання глебы. Шмат земляробаў, на жаль, не разумее, што вапна патрэбная — і неабходная! — кіслай глебе, як і іншыя састаўныя часткі ўсяго ўгнаення. Барацьба за павышэнне ўраджайнасці палёў, якую падняла партыя, уводзіцца пры дапамозе службы рольнай у масы земляробаў, асабліва ў гэтым годзе. Справа механізацыі, справа рэпрадукцыйных (насенных) гаспадарак — наогул на першым месцы. Але не забыліся таксама аб забеспячэнні адпаведнай колькасці вапны нашым закіслым палям. І распаўсюджванне вапнавання глебы сталася таксама важным пунктам у працы раённых аграномаў у летня-асенні час.

Міколу Маркоўскага, раённага агранома ў ГРН Рынкі (Лапскі павет) сустракаем у грамадскай радзе. Ён са старшынёй рады Эдуардам Хомікам афармляе справы транспарту вапны.

**— Ці ў вашым раёне ў мінулых гадах гаспадары вапнавалі свае палі?** — пытаем.

**(Працяг на стар. 4.)**

# АБ ВЫБАРАХ У ГФР ДА XVI СЕСІІ ААН

Нашыя прадбачанні адносна вынікаў выбараў у ГФР аказаліся правільнымі. Дзве сапернічаючыя паміж сабою партыі — хрысціянскіх дэмакратаў і сацыялдэмакратаў — не здабылі абсалютнай перамогі адна над другою. ЦДУ страціла большасць месц у Бундэстагу і зараз, каб утварыць урад, павінна шукаць сабе саюзніка. Калі яго не знойдзе, дык тады ў ГФР павінен паўстаць кааліцыйны ўрад, у склад якога ўвойдуць дагэтуляшнія сапернікі — ЦДУ і СПД.

Калі б у такі спосаб была вырашана справа складу новага ўрада, дык па сутнасці сітуацыя зусім не змянілася б, калі ўлічым, што супярэчнасці паміж гэтымі партыямі зводзяцца толькі да ўжывання розных зняважлівых слоў. Заходнегерманскія выбаршчыкі відавочна добра разумеюць сутнасць гэтых розніц паміж галоўнымі партыямі, калі ў мінулых выбарах значная іх частка падтрымала трэцюю па сіле партыю — Партыю свабодных дэмакратаў. У папярэднім Бундэстагу гэтая партыя мела толькі 8 % галасоў і 43 мандаты, а зараз мае 66 мандатаў. У выніку апошніх выбараў значэнне Партыі свабодных дэмакратаў выдатна ўзрасло, таму што без яе ні ЦДУ, ні СПД не здолеюць стварыць урада, у якім адна з гэтых партый мела б большасць. Па гэтай прычыне варта прысвяціць некалькі слоў гісторыі і праграме ФДП. Да 1956 г. свабодныя дэмакраты былі павязаныя з ЦДУ. Пазней, у 1957 г., яны ўвайшлі ў выбарчую кааліцыю з сацыялдэмакратамі. Аднак у час апошняй перадвыбарчай кампаніі свабодныя дэмакраты выступалі аддзельна.

Генеральны сакратар ФДП, Карл Герман Флях, наступным чынам характарызуе палітычную лінію партыі:

«...НАТО не з'яўляецца апошнім этапам на шляху германскай замежнай палітыкі. Каб аб'яднацца, варта было б парваць з НАТО. Нашая праграма абапіраецца на мірным дагаворы, на аб'яднанні і лакальным дагаворы аб бяспецы па-за рамкамі НАТО і Варшаўскага дагавору».

Бачым, што прынамсі на словах ФДП з'яўляецца найбольш прагрэсіўнай сілай Бундэстагу. Аднак у час цяперашніх палітычных таргоў у Бон многае можа змяніцца.

Зараз, калі ў Нью-Йорку пачынаецца пасяджэнне XVI Сесіі ААН, увага ўсіх накіроўваецца хутчэй у бок сядзібы гэтай арганізацыі. Там адбудуцца спрэчкі і асабістыя размовы, якія могуць палепшыць міжнародную сітуацыю і спрыяць умацаванню мірнага суіснавання народаў. Шмат карысці павінны прынесці размовы савецкага міністра замежных спраў Грамыка з амерыканскім сакратаром Раскам і брытанскім лордам Юмам. Гэтыя размовы могуць стацца ўступам да перагавораў па германскаму пытанню і ўсеагульнаму раззбраенню.

Вялікага значэння набывае таксама паездка міністра замежных спраў Бельгіі Спака ў Маскву. Калі Спак вырашыў замест у Нью-Йорк паехаць у Маскву, гэта азначае, што бачыць ён у гэтым большую карысць.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

**Друкуем у скарачэнні артыкул Старшыні Савета Міністраў БССР, які змясціла нядаўна на сваіх старонках «Эканамічная газета».**

# САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ
## у агульнасаюзным падзеле працы

**Ц. К. КІСЯЛЁЎ**
**Старшыня Савета Міністраў БССР**

Галоўнымі галінамі, якія вызначаюць спецыялізацыю Беларускага эканамічнага раёна і яго ролю ў агульнасаюзным падзеле працы, з'яўляюцца машына- і прыборабудаванне, металаапрацоўка. У мінулым годзе ў БССР было выраблена прамысловай прадукцыі прыкладна ў 35 разоў больш, чым да рэвалюцыі, і ў 4,3 раза больш, чым у перадваенным 1940 годзе. Валавая прадукцыя машынабудавання і металаапрацоўкі павялічылася ў параўнанні з 1940 годам у 21 раз, выраб электра- і цеплаэнергіі — амаль у 10 разоў. Рэзка ўзрос таксама выраб прадметаў народнага спажывання. **За першыя два гады сямігодкі ў нас выпушчана трактараў удвая, штучнага валакна — у 2,2 раза і матацыклаў — у 27 разоў больш, чым іх выпускалася ва ўсёй краіне ў 1940 годзе.**

Па аб'ёму выпуску некаторых важнейшых відаў прадукцыі **ў разліку на тысячу жыхароў Беларусь ужо апярэдзіла рад развітых капіталістычных краін:** па металарэзных станках — ЗША, Англію, Францыю і Японію: па грузавых аўтамабілях — Аўстрыю і Італію, па трактарах (без садоваагародных) — ЗША, Англію, Францыю, ФРГ і Італію

Аб дасягнутым нашай рэспублікай узроўні прамысловасці і яе ўдзельнай вазе ў агульнасаюзнай вытворчасці сведчыць, напрыклад, такі факт: займаючы па тэрыторыі шостае месца ў СССР, а па колькасці насельніцтва — пятае, Беларусь стаіць на другім месцы (пасля РСФСР) па выпуску трактараў, грузавых аўтамабіляў, металарэзных станкоў, піламатэрыялаў, аконнага шкла, скуранага абутку, панчошна-шкарпэткавых вырабаў, трыкатажнай бялізны, па вывазцы драўніны.

А якія здзіўляючыя перамены адбыліся ў сельскай гаспадарцы! Расшырыліся пасяўныя плошчы, павысілася ўраджайнасць, павялічылася пагалоўе жывёлы. У першым паўгоддзі гэтага года калгасы і саўгасы рэспублікі далі малака на 450,4 тысячы тон, або ў 2,4 раза больш, чым за ўвесь 1953 год. У разліку на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў вытворчасць мяса і сала (у забойнай вазе) склала ў мінулым годзе 41,1 цэнтнера супраць 23 цэнтнераў у 1953 годзе, малака — адпаведна 330 і 178 цэнтнераў. **Цяпер у Беларусі на душу насельніцтва атрымліваецца мяса больш, чым у Англіі і Нарвегіі, малака — больш, чым у Англіі, ФРГ, ЗША.**

Сельская гаспадарка рэспублікі аснашчана магутным паркам машын. На палях калгасаў і саўгасаў працуюць 60,8 тысячы трактараў (у 15-сільным вылічэнні), 10,6 тысячы зернавых камбайнаў, каля 34 тысяч грузавікоў і аўтацыстэрнаў, 3.800 бульбакамбайнаў і бульбаўборачных машын і г. д. Вядуцца вялікія работы па комплекснай механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

Нельга не сказаць і аб культурнай рэвалюцыі, што адбылася ў нас. Назавём толькі дзве лічбы. На 10 тысяч жыхароў рэспублікі прыпадаюць 72 студэнты вышэйшых навучальных устаноў — **больш, чым у любой капіталістычнай краіне Еўропы.** У народнай гаспадарцы занята 276 тысяч спецыялістаў з вышэйшай і спецыяльнай сярэдняй адукацыяй — больш, чым іх было ва ўсёй Расіі ў 1913 годзе.

Перадавая індустрыя, шырокая сетка чыгунак і аўтамабільных дарог,

(Працяг на стар. 4.)



Адпраўка новых трактараў на Мінскім трактарным заводзе.




Вяртаючыся ў атрад Мінай прастудзіўся. У роце ў яго стала суха, агнём гарэла галава і неймаверна разбаleліся зубы.

— Мо' за доктарам паслаць? — няўпэўнена запрапанаваў Кудзельскі.

— Выдумаў! Каб карнікі па дарозе і яго, і праваднікоў схапілі? — амаль рэзка абарваў Мінай. І раптам, сунуўшы два пальцы ў рот, ухапіўшыся за хворы зуб, з усіх сіл пакруціў і рвануў яго.

— Ды што ты? Зглузду з'ехаў! — злякаўся Кудзельскі.

Але Мінай, не адказаўшы, крутануў яшчэ раз і, вырваўшы нарэшце зуб, ледзь не ўпаў на нары. Перад вачыма паплылі вогненныя колы.

Да яго падбегла жонка Палубінскага, замітусілася.

— Ну, ці ж можна так? — мар-

101

мытаў Кудзельскі. — Сам сабе, рукамі... Што ты за чалавек?

Апрача іх, у зямлянцы цяпер нікога не было. Усе пашлі на аперацыю. Мінай не пашоў з імі толькі таму, што раптоўная хвароба прыкавала яго да зямлянкі.

...Ужо сцямнела, калі партызаны дабраліся да Чыатухі.

— Зойдзем у хаты, абагрэемся, — запрапанаваў Галубаў. І, звяртаючыся да Палубінскага і Гуськова, дадаў: — А вы ў патруль: зменім праз паўгадзіны.

Гуськоў з Палубінскім пашлі ўздоўж вясковай вуліцы. Дашлі да весніц, і толькі павярнулі назад, як раптам пачулі тупат конскіх капыт.

Палубінскі выцягнуў рэвальвер, узвёў курак.

Па дарозе ляцелі сані. У іх сядзела некалькі чалавек.

— Стой! Што за людзі? — аклікнуў іх Палубінскі, выходзячы на сярэдзіну дарогі.

— Мясцовая служба аховы парадку! — вясёла адказалі з саней.

Быццам бізуном ударыў Палубінскага гэты адказ. Ускінуў руку, і, — раз, другі, трэці па санях!

102

Галубаў, пачуўшы выстралы, адразу зразумеў, што затрымлівацца ў вёсцы нельга ні мінуты. Ён і павёў сяброў да весніц. Але раптам на іх зваліўся цэлы град куль.

— Лягай! — крыкнуў начальнік штаба.

Пачалася перастрэлка, але сілы былі няроўныя. Карнікі лезлі на партызан са ўсіх бакоў.

— Трэба адступаць, — сказаў Палубінскі Галубаву. — Адводзь нашых, а я гэтых затрымаю...

Папаўзлі на локцях, на каленах. Непрыкметнымі выбраліся з вёскі, дзе ўсё яшчэ працягвалася лютая страляніна. А Палубінскага ўсё яшчэ не было...

Так і не прышоў ён да самага світання, і сябры зразумелі, што чакаць больш няма чаго...

У поўдзень яны вярнуліся ў партызанскую зямлянку.

— Дзе мой муж? — трывожна сустрэла Палубінская.

— Ён адстаў... вернецца, — Галубаў не меў адвагі глянуць ёй у вочы.

— Вы нешта ведаеце? Чаму маўчыцё?!

103

— Ён... астаўся ў Чыатусе... Даў нам магчымасць адступіць... — амаль прашаптаў Галубаў, апускаючы галаву.

Дзень цягнуўся памалу, запоўнены напружаным чаканнем: а раптам вернецца? Але Палубінскі так і не вярнуўся, і ад гэтага яшчэ цяжэй стала на душы ў партызан. А пад вечар, калі з дазору вярнуўся Гуськоў, стала яшчэ горш.

— Разумееце, — сказаў ён, — чалавека бачыў. Быццам і наш, а мо' і не. Хто ж яго ведае? Па трапінцы ішоў. А сам усё па баках пaглядвае, нібы шукае чаго.

— Чаму ж ты не затрымаў яго? — спытаў Мінай.

— А навошта? Сябе выдаваць?

— А мо' гэта шпіён? — перабіў камандзір атрада. — Эх, стары, маху даў ты!

— Каб толькі ўсё добра абышлося, — панура мармытаў Галубаў і змоўк.

На гэтым і закончылася непрыемная гутарка, не супакоіўшы нікога. На самай справе, што за чалавек хадзіў непадалёку ад зямлянкі? Навошта? Чаго яму трэба?

104



# НАЙВЫШЭЙШАЕ МАСТАЦТВА

Нядаўна гастраліраваў у Беластоку Дзяржаўны заслужаны танцавальны ансамбль УССР. Гэтыя гастролі — незвычайная падзея ў культурным жыцці Беласточчыны. Найлепш хіба сведчыць аб тым факт, што зала тэатра імя А. Венгеркі (дзе выступаў ансамбль) у час абодвух выступленняў была запоўнена да апошняга месца, а ўсе білеты (нягледзячы на іх высокую цану) былі выкуплены ўжо за некалькі дзён да назначанага выступлення украінскіх танцораў.

На выступленні Ансамбля прыязджалі людзі са шматлікіх мясцовасцей Беласточчыны.

Дзяржаўны заслужаны танцавальны ансамбль УССР — ансамбль асаблівага характару. Ён не з'яўляецца балетам, хаця ўсе яго члены — артысты - прафесіяналы і патрабуецца ад іх танцавальнага мастацтва не менш дасканалага, чымсьці ад артыстаў балета ва ўсім свеце. Нельга назваць яго таксама народным танцавальным калектывам, хаця танцавальны рэпертуар ансамбля сваімі карэннямі глыбока сягае ў жыццё украінскага народа. У яго характары найбольш прыкмет літаратурнага мастацтва, замкнутага ў танцавальную форму. Як мароз, бяскшталтныя кропелькі вады, асеўшыя на шыбе, пераўтварае ў малюнак вышэйшай дасканаласці, так сыравіна народнага мастацтва, натхнёнага талентам і працавітасцю ўсіх членаў ансамбля, пачынае жыць у новай, непараўнальна прыгажэйшай форме.

Кожны танец праграмы — гэта нейкая частка праўдзівага жыцця, паказанага без слоў. Глядзіш і ўсё становіцца ясным і зразумелым, быццам прачытаная кніжка. У танцах ансамбля няма ніякай выпадковасці, ніводнага непатрэбнага руху, позірку, усмешкі. Усё на сваім месцы, усё патрэбнае, неабходнае. Незалежна ад таго, ці танцор выступае на пярэднім плане, ці ў групе іншых танцораў, стваараючых «фон» нейкай сцэны, кожны з іх мае на ўвазе толькі адно: як найбольш дакладна, ясна і зразумела пераказаць гледачам змест і характар танца. А танцы ў праграме — самыя разнастайныя. Адны развесяляюць, другія хвалююць, а іншыя застаўляюць прызадумацца над жыццём. І не толькі захапляе разнастайнасці танцаў. Ад першай хвіліны, як толькі падняўся занавес, сцэна тэатра загарэлася незвычайнай чаруючай вочы, вясёлкай колераў. І вясёлка гэтая не пагасла ўжо да апошняга акорда. Змяняліся толькі яе адценні, падкрэсліваючы характар і змест танца.

**Віктар РУДЧЫК**

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# ПРАЦА Ў БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ПРЫКАЗКАХ І ПРЫМАЎКАХ Беласточчыны

Прыказкі і прымаўкі — самыя кароткія формы вуснай народнай творчасці. У іх народ выказваў свае, сабраныя на працягу стагоддзяў, глыбокія назіранні над з'явамі жыцця і прыроды. «У прыказцы — праўда святая», — кажа сам народ аб сваім творы. Прыказкі і прымаўкі арганічна ўвайшлі і зліліся з народнаю мовай прыдаючы часта звычайным з'явам штодзённага жыцця глыбокі філасофскі сэнс, бо «на ўсё знойдзецца прыказка». Не дзіва тады, што сярод беларускага насельніцтва сустракаем на кожным кроку людзей, якія «без прыказкі і з печы не зваляцца». Асабліва цікавымі і павучальнымі з'яўляюцца прыказкі і прымаўкі аб працы і працавітасці. У іх народ выказаў вялікую пашану да стваральнай працы як адзінай крыніцы ўзбагачэння народа, ствараючы свой ідэал сапраўднага чалавека, асноўнай рысай характару якога з'яўляецца станоўчыя адносіны да працы. Адначасова народ рэзка высмеяў у сваіх прыказках і прымаўках гультайства і гультаёў і пад іх адрасам «сыпнуў слоўцам, як перцам».

**Працуй да поту — паясі ў ахвоту.**

**Хочаш есці калачы, дык не ляжы па пячы.**

**Хто дбае, той мае.**

**Пад ляжачы камень і вада не цячэ.**

**Шукай сабе прыбылі, а другому не жадай пагібелі.**

**Праца корміць, а лянота псуе.**

**Раннія птушачкі зубкі цярэбяць, а позні вочкі дзяруць.**

**Дзе гультай ходзіць, там зямля не родзіць.**

**Хто летам у халадку ляжыць, той зімою без хлеба сядзіць.**

**Як жытцо палавее, то гультай млее.**

**Як жытцо даспявае, то гультай у халадок уцякае.**

**Здатны да работы, як драўляная піла ў лесе.**

З запісаў з Беластоцкага, Бельскага і Гайнаўскага паветаў выбраў і скаменціраваў .

**Алесь Чабор**

## САЛАМЯНЫ ЗБАНОК



**З выстаўкі народнай творчасці Беласточчыны, якая была адкрыта ў верасні г.г. у Беластоцкім музеі.**

**Фота. Г. Рагазінскі**

А раніцай усё высветлілася, ды так, што горш і быць не магло. Шпакаў, які быў у дазоры, раптам уварваўся ў зямлянку і здушана крыкнуў:

— Блізка!

— Хто блізка?

— Яны! Чалавек пяцьсот!

Схапіўшы зброю, партызаны выскачылі з зямлянкі. Па краю яра ішлі карнікі. Яны таксама ўбачылі партызан і, правальваючыся ў снег, адразу ж пачалі спускацца ў яр, адкрыўшы лютую страляніну з аўтаматаў.

— Адход, таварышы! — сказаў Мінай, зразумеўшы, што супраціўленне бескарыснае.

Выграшыўшы збіць карнікаў са следу, Мінай пачаў кружыць па карчах, рэзка паварочваючы то ўправа, то ўлева. Гэта і ўдалося яму: гітлераўцы пачалі адставаць, а потым і зусім прашлі побач. І тады, каб зусім уцячы ад іх, камандзір зноў павёў людзей у бок зямлянкі. Мінай цешыўся: пагоні як быццам не чутна. Вось ужо і карчам канец, а наперадзе знаёмы ўзгорак.

105

Але ледзь толькі паспелі яны выйсці на адкрытае месца, як ззаду загрымелі выстралы.

— Хутчэй! У лес! — кінуўся Мінай і тут жа пачуў зларадны радасны голас Васіля Фаменкава:

— Вось ён, Мінай! Я ж гаварыў, што ён тут! Жыўцом бярыце яго, жыўцом!

Марудзіць нельга было, і, на бягу выпусціўшы чаргу ў бок ненавіснага голасу, Мінай крыкнуў сябрам:

— Бяжыце ў розныя бакі! Хутчэй!..

Галубаў, Гуськоў, Шпакаў і Плеханаў паслухмяна павярнулі ўлева, а камандзір з Кудзельскім і Палубінскай панесліся ў правы бок. Абедзве групы скрыліся так быстра, што карнікі часова нават спынілі страляніну.

Але сілы ўжо пакідалі людзей. Кудзельскі падаў, і Мінаю даводзілася падымаць яго. Палубінская хісталася, бы п'яная, і камандзір бачыў, што і яна вось - вось страціць апошнія сілы.

— Яшчэ крыху, браткі. Мы вырвемося, вырвемося! — амаль умаляў ён таварышаў, і яны, перамагаючы неймаверную стому, падпарадкоўваліся ці то гэтым угаворам, ці то сільнай волі свайго сябра і камандзіра.

106

Так і беглі, і ішлі, і амаль паўзлі: спачатку асіннікам, потым перасеклі яр, і нарэшце, апынуліся ў мізэрным беразняку. Скрозь яго відна было занесеныя снегам штабелі дроў.

— Ну, вось мы і вырваліся, — спыніўся Мінай.

З дрэва на іх глядзела сарока. Пакруціўшы доўгім чорным хвастом, яна застракатала і сарвалася з галінкі.

У гэты момант за спіною ў іх раздаліся выстралы. Мінай убачыў, як упаў Кудзельскі: разрыўная куля трапіла яму ў галаву. Схапіўшы Палубінскую за руку, Мінай кінуўся да блізкага ўжо штабеля дроў, але другая куля дагнала і звaліла на снег яго спадарожніцу. Глянуўшы на яе, ён убачыў, як з паўадкрытага рота Палубінскай пацёк чорны струменьчык крыві.

Бацька Мінай застаўся адзін.

Ён усё ж дабег да штабеляў.

107

Перш за ўсё праверыў аўтамат: ці ёсць патроны? І вылаяўся скрозь зубы: засталося штук трыццаць, не больш. Давялося перавесці аўтамат на адзіночныя выстралы.

А эсэсаўцы ўжо заляглі, і на фоне белага снегу выразна вырысоўваліся іх галовы. Прыцэліўшыся ў адну з іх, Мінай націснуў на спуск, і галава ў пілотцы тут жа ўткнулася ў сумёт. Апошнія пахаваліся, і давялося доўга чакаць, пакуль немцы зноў адважыліся выглянуць.

Але, відавочна, і ім не хацелася дарма падстаўляць галовы пад кулі партызана. Яны раздзяліліся на дзве групы і з абоіх бакоў пачалі падбірацца да штабеляў. Мінай апусціўся на калена. Ён цяпер цэліўся дакладна і біў па самых надзейных мішэнях.

«Першы... другі... трэці...» — лічыў у думках. І раптам пякучая думка апякла яго: «А дык возьмуць мяне! Іх шмат, усіх не пераб'ю. Возьмуць!..»

Не, лепш смерць, але толькі не палон. А значыць, пакуль ты жы-

(Працяг на стар. 7)

108



Мясцовы «транспарт» савецкага лекара Аляксандры Кісялёвай у Йемене. Яна была там першай жанчынай-лекарам і першым акушэрам-гінеколагам.

# ДАПАМОГА СЯБРОЎ

Да гэтага часу адчуваецца ў многіх краінах свету вельмі вялікі недахоп медыцынскай дапамогі.

У Камбоджы адзін лекар прыходзіцца на 87 тысяч жыхароў, у Непале толькі 8 з 100 тысяч чалавек можа разлічваць на месца ў бальніцы, у Бірме з 1000 нованароджаных умірае 167.

Гэтыя цыфры ўзяты з апошніх справаздач Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Праблема барацьбы з масавым захворваннем, з эпідэміямі, з высокай дзіцячай смяротнасцю стаіць асабліва востра перад маладымі дзяржавамі Азіі і Афрыкі, якія атрымалі цяжкую спадчыну каланіялізму. У Конга, напрыклад, яшчэ няма лекараў афрыканцаў. Як хутчэй вырашыць надзённыя праблемы аховы здароўя? У пошуках адказу на гэтае пытанне маладыя дзяржавы ўсё часцей звяртаюцца да вопыту і дапамогі Савецкага Саюза. На вачах аднаго пакалення з адсталай краіны з поўкаланіяльнымі акраінамі, СССР ператварыўся ў магутную дзяржаву, дабіўся агромных поспехаў не толькі ў эканоміцы і навуцы, але і ахове здароўя сваіх грамадзян.

Тысячы іранцаў і эфіопаў абавязаны за жыццё лекарам бальніц савецкага Чырвонага Крыжа ў Тэгеране і Адзіс-Абебе. Добрая слава аб савецкіх медыках разыходзіцца ў Йемене.

Усяго толькі год працавалі савецкія лекары ў Іраку. За гэты час зроблена многа. У цыфрах гэта абазначае: 250 000 чалавек вылечана амбулаторна, вылечана 5000 ляжачых хворых, 2200 праведзена складаных хірургічных аперацый.

Пры дапамозе савецкіх лекараў амаль усім жыхарам Іраку зроблены былі прывіўкі супраць воспы.

Аднак дапамога СССР не абмяжоўваецца толькі пасыланнем лекараў. Не так даўно ў горадзе Пном-Пене адкрылі бальніцу на 500 ложак з паліклінікай — дар савецкага народа сябрам з Камбоджы. Гэтая бальніца адна з буйнейшых у Азіі, забяспечана самым сучасным абсталяваннем і разлічана на лячэнне ўсякіх захворванняў. У бальніцы працуе група спецыялістаў, накіраваных савецкім Чырвоным Крыжам.

Савецкі Саюз дапамагае народу Непала будаваць бальніцу ў яго сталіцы — горадзе Катманду. У канцы 1961 года закончыцца будова і абсталяванне аграмаднай бальніцы ў бірманскім горадзе Гаунджы. Пачалі таксама будову бальніцы ў сталіцы Інданезіі — Джакарце. Прыехаўшы ў тую ці іншую краіну, савецкія лекары заўсёды імкнуцца перадаць свае веды калегам, падрыхтаваць мясцовыя медычныя кадры. І так, у Йемене з дапамогай савецкіх спецыялістаў сарганізавана школу фельчараў, у Іраку савецкія прафесары кіруюць кафедрамі Мусульскага каледжа, у Афганістане савецкія вучоныя чыталі лекцыі ў Кабульскім універсітэце. СССР вялікую дапамогу аказвае слабаразвітым краінам і ў арганізаванні ўласнай фармацэўтычнай прамысловасці. Да гэтага часу многія дзяржавы Азіі і Афрыкі змушаны за вялікія грошы купляць у Еўропе і ЗША нават самыя неабходныя медыкаменты. Зараз савецкія спецыялісты дапамагаюць пабудаваць непадалёк Каіра вялікі завод па прадукцыі хіміка-фармацэўтычных прэпаратаў і антыбіётыкаў. Аналагічныя прадпрыемствы запланавана пабудаваць у Іраку і Індыі.



Гэта амерыканская ракета разам з дзесяткамі іншых ракет будзе ўстаноўлена на новай ваеннай базе СЕНТО непадалёк турэцкага горада Ізміра. Хто ведае куды, у які бок будзе накіравана яе ядзерная боегалоўка? Каму прынясе яна смерць?

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ШТО...

за сродкі і каштоўнасці, якія паглынула другая сусветная вайна, можна было б для кожнай сям'і на свеце пабудаваць 5-ціпакаёвы домік і ўсім дзецям свету запэўніць вышэйшую адукацыю.

## Сетка-вадаправод

**Гібралтар, як вядома, не мае прыродных крыніц піццявой вады. Аднак вучоныя ўжо 9 месяцаў ваду атрымоўваюць проста з воблакаў. Прычым, дождж у гэтым не дапамагае. У чым справа? Уявіце сабе сістэму вертыкальна распаложаных сетак. Знаходзячыся ў воблаках кропелькі вады пападаюць у ячэйкі сетак і накіроўваюцца ў прыёмныя рэзервуары. Пры гэтым кожны квадратны метр сеткі дае 28 літраў вады за лета і 20 літраў на працягу зімы. 640 квадратных метраў сетак круглы год поўнасцю абяспечвае патрэбы насельніцтва Гібралтара ў піццявую ваду. Такі спосаб абыходзіцца нядорага, танней, чым дыстыляванне марской вады, альбо дастаўка піццявой вады з кантынента.**

## КІНАТЭАТР „РАСІЯ"

**Нядаўна ў Маскве на плошчы Пушкіна пабудаваны агромны кінатэатр. Галоўная зала змяшчае 2550 чалавек. У дзвюх другіх залах, прызначаных для агляду дакументальных, навукова-папулярных і мультыплікатыўных фільмаў, 225 і 200 месц. У адной малой зале — шырокі экран. Кінатэатр пабудаваны па праекту архітэктараў Ю. Шэвердзяева, Д. Солапава і Э. Гаджынскай.**

## ШКОЛА СЛАНОЎ

Сланы ў Афрыцы ўжо даўно служаць людзям, а ў старажытнасці іх выкарыстоўвалі нават на вайне ў якасці «жывых танкаў».

Зараз існуюць спецыяльныя школы, у якіх вучаць сланоў падпарадкоўвацца чалавеку. «Вучні» гэтыя паступаюць у школу ва ўзросце 12—14 год. Іх ловяць у лясах. Накідваюць на ногі петлі з тоўстых вяровак і прывязваюць да дрэў.

Нялёгка прывесці ў школу гэтых непаслушных «вучняў», яны зусім не хочуць вучыцца і ў шаленстве, абрываючы вяроўкі, рвуцца на свабоду. У дапамогу людзям прыходзяць спецыяльна выдрэсіраваныя сланы. Два з іх падыходзяць з двух бакоў да маладога дзікара, сціскаюць яго сваімі магутнымі целамі і прыводзяць у школу.

Першыя ўрокі пачынаюцца з дзіўнай працэдуры. Два негры дрэсіроўшчыкі з зялёнымі веткамі ў руках становяцца перад мордай сланяняці на патрэбнай адлегласці. Плаўна размахваючы веткамі ўверх і ўніз перад самым носам свайго вучня, яны напяваюць манатонную мелодыю. Спевакі прыбліжаюцца да слана ўсё бліжэй і бліжэй, і пазней іх веткі закранаюць за хобат і морду слана. Відавочна, пасля такой «музыкальнай апрацоўкі» слон хутчэй успакойваецца і лягчэй паддаецца дрэсіроўцы.

У настойлівай вучобе праходзяць месяцы, а часам і цэлы год, пакуль прыручаны слон пазволіць свайму настаўніку сесць на сябе вярхом. Тады яго вучаць разумець каманды. «Закончыўшы» школу, малады слон пачынае працоўнае жыццё ў пары са старым выпрабаваным у рабоце сланом. Іх запрагаюць разам у плуг, барану ці воз. Не даюць поўнай нагрузкі да тае пары, пакуль малады слон не падрасце і ўмацуецца. «Прадукцыйная магутнасць» рабочага слана вельмі вялікая. Два запрэжаныя сланы замяняюць ад 16 да 20 быкоў.

Сланы, запрэжаныя ў плуг ці барану, апрацоўваюць палі, выкарчоўваюць пні і валяць дрэвы на лесаапрацоўках. У агромных калымагах вывозяць яны з фруктовых плантацый да пабярэжжа бананы і апельсіны.



Пяць сільных мужчын стараюцца ўтрымаць адну нагу маладога слана. Гэта нялёгка. Дарослы слон можа цягнуць пяць тон па зямлі.



Перад пачаткам дрэсіроўкі слана неабходна модна прывязаць.



Так слана абучаюць уставаць на каманде.



Першы дзень на рабоце. Абучэнне закончана, наперадзе цяжкое працоўнае жыццё.

 




Гэтая гісторыя пачалася ў суботу. У Максімаву хату, дзе сабралася праўленне сельгасгуртка, зайшоў незнаёмы і папрасіў напіцца.

— Мабыць здалёк? — пацікавіўся дзед Максім, падаючы незнаёмаму кружку.

— З горада, — коратка адказаў той.

— Па справе, ці так сабе дазволілі? — дапытваўся дзед.

— Па культурнай лініі раз'язджаю.

— Культурная лінія... значыць тэатр пакажаце? — не сунімаўся Максім.

— Тэатр ерунда! Я з гарошынай езджу.

Члены праўлення бліжэй падышлі да незнаёмага.

— Якая ж гэта гарошына, можна пацікавіцца? — спытаў Максім, падморгваючы суседу.

Прыезджы выцягнуў з кішэні звычайную гарошыну і, трымаючы яе ў двух пальцах, быццам брыльянт, паказаў прысутным.

— Мо' ад хваробы лечыць? — пацікавіўся Максім.

— Ад суму, — паправіў незнаёмы.

— Цікава паглядзець, — сказаў нехта.

— За 10 злотых пакажу, — згадзіўся прыезджы.

Матвей падаў манету, а незнаёмы выцягнуў з кішэні тры каляровыя, бакелітавыя шкляначкі, палажыў на стол гарошыну і, паганяўшы яе шкляначкай, сказаў:

— Угадай, пад якой ляжыць.

Матвей падняў зялёную шкляначку. Пад ёю была гарошына. Прыезджы падаў Матвею 20 злотых.

— Давай яшчэ за дзве дзесяткі, — прапанаваў Матвей. Калі ён падняў чырвоную шкляначку незнаёмы зноў выплаціў яму выйгрыш.

— Паўсотню стаўлю! — вырваўся Матвееў сусед.

Прыезджы памяшаў шкляначкі. Сусед падняў зялёную і атрымаў выйгрыш.

— А я на чырвоную, — сказаў дзед Максім, вымаючы «сотню». Ён падняў чырвоную шкляначку і, атрымаўшы выйгрыш, папляваў на банкнот.

— Сёння хопіць, — сказаў прыезджы, хаваючы шкляначкі. — Відаць адсырэла мая гарошына. Вільгаць шкодзіць гароху, як рэўматызм чалавеку. Вечарам уся вёска ведала аб выйгрышах. Прыезджага дурнем гарохавым называлі.

— Заўтра я з яго нагавіцы садру, — хваліўся Матвей.

Раніцай у Максімавай хаце сабралася цьма народу.

— Міленькі, я на выйграную сотню стаўлю, — першым адазваўся Максім.

Прыезджы памяшаў шклянкі. Максім падняў белую і, убачыўшы там гарошыну, закрычаў:

— Ух, ты, міленькая! Вось, гэта дык сапраўды культура.

— Пяцісотку стаўлю! — крыкнуў Матвей.

Ён бачыў, як гарошына зноў затрымалася пад белай шклянкай. Падняў яе і ўбачыў... дулю. Матвей выняў з кішэні «пяцісотку» і са ўздохам працягнуў прыезджаму.

— Я таксама на пяцьсот іду, — аб'явіў Максім, спадзеючыся, што прыезджы не заўважыў, як ён падлажыў другую гарошыну. Матвей, прыкмеціўшы маніпуляцыю дзеда, палажыў на стол другую «пяцісотку» і закрычаў:

— На тысячу, Максім, я даплачваю.

Максім падняў чорную шклянку, пад якую ўлажыў сваю гарошыну.

Прайгралі.

Не прайшло і гадзіны, а ў кішэнях ва ўсіх свістала. Прыезджы, схаваўшы «культурныя прылады», ветліва развітаўся.

— Ніколі ў жыцці не бачыў так каштоўнага гароху, — прабурчэў Максім.

Мілыя грамадзяне, калі ў людзей мозг з гарошыну, іх заўсёды абыграюць.

*Дзядзька Лявон*






Падзел Алжыра паводле намеру французскага ўрада.



— Ты мне тут фокусаў не паказвай. Я ж табе ўжо даўно сказаў, што на лётчыка не пойдзеш

## У ЦЫРКУ

Сын: — Глянь, мамка, во леў. Кажуць, ён людзей есць.

Маці: — Ат, гэта можа ў цёплых краінах. У нас, дык людзей гарэлка з'ядае.

Юрка Скепка
Альхоўка




## ПРЫЧЫНА СМЕРЦІ

На тым свеце святы Пятро пытае новую душу:

— Ты памятаеш апошнюю хвіліну перад смерцю?

— Памятаю апошнія словы маёй жонкі: «Давай я цяпер паведу самаход», — адказвае душа.

Ірэна Пэкала
Сапава

## Коцікаў хвосцік

— Ясю, не бяры коціка за хвост, бо ён цябе ўдзярэ!

— Тата, коцік жа ў хвасце не мае пазуроў.

Аляксандр Макаль
Крушыняны

## Шкодны туман

Сустрэліся два суседзі. Адзін кажа другому.

— Усё ж такі туман вельмі шкодны для садавіны?

— Пэўна! Учора раніцай у час туману ў мяне ўсе яблыкі абабралі.

Мікалай Панфілюк
Дубічы Царкоўныя

## КАЛІ

— Міхась, — пытае сусед суседа, — не ведаеш, калі будзе добрае надвор'е?

— Як дождж перастане, — адказаў той.

Янка Зда095ўскі
Лесна

## ДОБРАЯ рэпутацыя

— Як вас называюць?

— Як хто хоча: жонка — распуснікам, бацька — гультаём, суседзі — зладзеем, толькі адзін адвакат хваліць.

Юрка Шумелюк
Рыбалы

— Мая даражэнькая, ужо ў нішто нельга верыць. Першы чалавек, які жыўцом паляцеў да неба — няверуючы!





— Павер, дарагі, што гэты цёплы подых нічога добрага не варожыць.

## СЯРГЕЙ МІХАЛКОЎ

## ЛЕЎ і ЯРЛЫК

Прачнуўся Леў, стаў кідацца, злавацца,
Парушыў цішыню шалёны, грозны рык —
Якісьці звер над Львом задумаў пасмяяцца:
Для здзеку пачапіў на хвост яму ярлык.
Накрэмзана «Асёл», ёсць нумар дробʼю, дата,
Пячатка круглая і подпіс кручкаваты...
Леў
Ускіпеў:
Як быць? Сарваць ярлык?! А нумар? А пячатка?!
Ці не паруша ён парадку?..
Яшчэ дзе прыйдзецца адказ трымаць!
Рашыў ад ярлыка пазбавіцца законна,
На Зборышчы звяроў параду атрымаць.
«Я Леў або не Леў!?» — спытаў ён раздражнёна,
Аж рэха загрымела навакол...
«Фактычна — Леў! — сказаў Шакал з паклонам,—
А юрыдычна, бачым, Вы — Асёл!»
«Ці ж я Асёл, калі не ем я сена?!
Я Леў або не Леў! Хай скажа Кенгуру!»
«Так! — Кенгуру ў адказ. — Вы знешне, несумненна
Нагадваеце Льва, а чым — не разберу!..»
«Асёл! Што ж ты маўчыш?! — Леў кажа ў замяшанні, —
Падобны я на тых, хто спаць ідзе ў хлеў?!»
Асёл задумаўся і выклаў меркаванні:
«Яшчэ ты не Асёл, аднак ужо не Леў!..»
Дарэмна Леў прасіў і прыніжаўся,
Ваўку даводзіў, на Шакала націскаў...
Без спачування ён, вядома, не застаўся,
Ды ярлыка ніхто з яго не зняў.
Леў выгляд страціў свой, марнець пачаў памалу
Дарогу саступаць каму папала
І неяк на зары, з пячоры Льва
Данеслася асліпае «І-ва!»

Падчас ярлык мацней за Льва!

Пераклад Э. Валасевіча

 